# Скаўцкі Рэгулямін

## частка I. Ваўчаняты



ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ НА ЧУЖЫНЕ

# С К А Ў Ц К І   Р Э Г У Л Я М І Н

## частка I. Ваўчаняты.

1947

Выданьне Галоўнага Кіраўніцтва ЗБСЧ.

Згодна з пастановамі II -га Скаўцкага Зьезду і Галоўнага Кіраўніцтва з дня 4-га лістапада 1947 г. гэты Рэгулямін мае выключнае абавязваючае заставаньне для Заўчанят і ўсе дасюль выданыя Рэгуляміны і інструкцыі ў справе арганізацыі і вышкаленьня Заўчанят трацяць сваю абавязваючую сілу.

Гэты Рэгулямін падлягае канчатковаму зацьвярджаньню III-га Зьезду ЗБСЧ.

Галоўная Кватэра,

9 ліст. 1947 Шэф Скаўт

## Разьдзел I.

## Арганізацыя Ваўчанятаў

Назоў

§1. Скаўтынг для хлапцоў ад 7 да 11 год называецца Арганізацыяй Ваўчанятаў.

§2. а/ Арганізацыя Ваўчанятаў становіць складовую частку Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў на Чужыне.

б/ АВ зьяўляецца падрыхтоўкай дзяцей да ўступленьня ў Скаўцкія Дружыны.

Мэта

§3. Мэтай АВ ёсьць:
а/ выпрабленьне характару пры дапамозе мэтадаў і сродкаў, адпаведных да веку дзяцей;
б/ навука грамадзкага суҗыцьця праз увядзеньне дзяцей у жыцьцё грамады, арганізацыю працы і гульняў;
в/ выхаваньне дзяцей у духу нацыянальных традыцыяў і пашаны да чужога;
г/ падняцьце культурнага ўзроўня дзяцей і іх фізычнае выхаваньне;,
д/ уняоеньне ў жыцьцё дзяцей як найбольш радасьці, вясёласьці і бадзёрасьці.

Структура

§4. а/ Найвышэйшай уладай Арганізацыі Ваўчанят ёсьць Галоўная Кватэра ЗБСЧ, Рэфэрат Ваўчанятаў.

б/ Пры кожным Штандары ЗБСЧ існуе падобны рэфэрат, які ў справах арганізацыйных і

выхаваўчых падпарадкаваны Рэфэрату Ваўчанят пры Галоўнай Кватэры.

в/ Ваўчаняты твораць аддзельныя Грамады, на чале якіх стаяць Праваднікі Ваўчанятаў.

г/ Праваднік Ваўчанятаў у справах выхаваньня падпарадкваецца беспасрэдна Рэфэрату Ваўчанятаў пры адпаведным Штандары.

§5. Грамада Ваўчанятаў складаецца з 15-25-ці хлапцоў і падзяляецца на Шосткі.

§6. Калі Грамада Ваўчанятаў існуе пры Сьцягу то творыць яна разам са Зьвязамі адну арганізацыйную адзінку з супольнай касай, інвэнтаром, сьвятліцай, кіраўніцтвам. Навонкі рэпрэзэнтуе ўсю скаўцкую адзінку Сьцяжны.

§7. Калі у данай мясцовасьці няма скаўцкіх Зьвязаў, то Грамада Ваўчанятаў творыць самастойную Грамаду і падпарадкуецца беспасрэдна кіраўніцтву Штандару, мае сваю незалежную гаспадарку, касу, сьвятліцу і г.д.

§8. Ані ў Грамадзе Ваўчанятаў пры Сьцягу, ані ў самастойнай Грамадзе Праваднік ня можа быць адзінай дарослай асобай. Ён павінен мець яшчэ свайго заступніка, не малодшага аднак чым 15 год.

§9. Ніякая Грамада Ваўчанятаў ня можа быць зарганізована, калі няма Праваднікa Ваўчанят, зацьверджанага Галоўнай Кватэрай ЗБСЧ.

§10. Грамада Ваўчанятаў падзяляецца на Шосткі. На чале Шосткі стаіць Важак, выбраны хлопцамі і зацьверджаны Праваднікам. Важак -гэта адзін з спрытнейшых хлопцаў, які цешыцца ў іх найбольшым аўтарытэтам.

Рада Грамады

§11. Зборка Важакоў пад кіраўніцтвам Правад-

ніка называецца **Радай Грамады.**

§12. Рада Грамады ёсьць дапаможным органам для Праваднікa і судом для Ваўчанятаў. Разам з Праваднікам Рада Грамады апрацоўвае пляны працы, праграму заняткаў, гульняў і зьяўляецца сыстэматычнай школай для Важакоў.

§13. а/ Важакі не праводзяць самастойна зборак ані іншых заняткаў, як толькі пад кіраўніцтвам і бесспасрэдным наглядам Праваднікa.

б/ Раз у тыдзень Праваднік зьбірае Раду Грамады дзеля паведамленьня Важакоў аб гульнях, практыкаваньнях і іншых занятках на найбліжэйшыя зборкі і дзеля практычнай падрыхтоўкі Важакоў, каб маглі яны ў час зборак свабодна практыкавацца з хлопцамі.

в/ Раду Грамады можа склікаць Праваднік перад кожнай зборкай і ў кожнай патрэбе, калі мае нешта даручыць хлапцом.

г/ На Радзе Грамады могуць быць абгавораваны і іншыя справы, як напр. кандыдатуры, ахвотных уступіць у Грамаду, навічкоў, паводзіны паасобных хлапцоў і спосабы ўзьдзеяньня на труднейшых і г.д.

§14. Важакі што нейкі час павінны быць зьменяныя, каб маглі і іншыя хлопцы навучыцца кіраваць Шосткамі, арганізаваць працу, гульні і заняткі.

## Разьдзел II.

## Праваднік Ваўчанятаў

§15. а/ Праваднікам Ваўчанятаў у агульнасьці называецца кожны старэйшы кіраўнік Ваўчанят.

б/ Адрозьніваецца тры ступені кіраўніка Ваўчанятаў:

1. Малодшы Праваднік,
2. Праваднік,
3. Старэйшы Праваднік /скаўтмайстар/.

§16. Ступень Малодшага Праваднiка атрымоўвае кiраўнiк Ваўчанятаў загадам Штандаровага на аснове пасьпяхова адбытай пробы i ў паразуменьнi з Галоўнай Кватэрай ЗБСЧ.

§17. Малодшым Праваднiком можа быць Скаўт, якi скончыў 15 год, мае найменш ступень Выведнiка /адзнаку юнака I клясы/ i вёў нейкi час з добрым посьпехам скаўцкую Дружыну.

Проба на Малодшага Праваднiка

§18. У пробе на Малодшага Праваднiка Ваўчанятаў Скаўт павiнен выказацца наступным:

1/ Умее весьцi зборку Ваўчанятаў у полi i на залi;

2/ ведае арганiзацыю, рэгулямiны, вымаганьнi пробаў на ступенi i на адзнакi спраўнасьцяў, адзнакi, унiформу, словы Прырачэньня i Права Ваўчанятаў;

3/ ведае некалькi танцаў, некалькi песьняў, найменш 20 розных гульняў для Ваўчанят;

4/ пакажа некалькi прадметаў, зробленых самым i выкажацца ведамi з галiны майстраваньня;

5/ ведае асноўныя падручнiкi для Ваўчанят, гiсторыю скаўтынгу, найважнейшыя весткi з нашай гiсторыi i лiтаратуры; чытае стала часапiсы для Юнакоў i Ваўчанятаў так беларускiя, як i iншыя;

6/ уложыць i абгрунтуе плян трохмесячнай працы i заняткаў Грамады.

§19. Пробу на ступень Малодшага Праваднiка праводзiць Камiсiя з трох асобаў пад кiраўнiцтвам скаўтмайстра, паклiканая Штандаровым i зацьверджаная Г.К.

§20. Малодшы Праваднiк утрымлiвае сталы кантакт з Праваднiком, або Старэйшым Праваднiком i праводзiць заняткi паводле атрыманых iнстру-

кцыяў.

Правадні к

§21. Правадніком Ваўчанят можа быць Старэйшы або Сталы Скаўт, які пасьпяхова здасьць прадбачаную Рэгулямінам інструктарскую пробу і атрымае ступень падскаўтмайстра.

§22. Вызначэньне на становішча Правадніка Ваўчанятаў адбываецца загадам Шэфа ЗБСЧ на аснове вымаганьняў §§ 21, 23, 24.

§23. Да пробы на ступень Правадніка Ваўчанят можа быць дапушчаны Старэйшы Скаўт, які мае:
1/ скончаных 18 год жыцьця,
2/ ступень Скаўта Пагоні,
3/ прапанову Штандаровага на інструктарскае шкаленьне,
4/ найменш гадавую практыку працы на становішчы Малодшага Правадніка Ваўчанятаў,
5/ найменш 2-х тыднёвы адбыты скаўцкі табар і найменш 2-х тыднёвы час кіраўнічай працы ў табары для Ваўчанятаў.

Проба на Правадніка

§24. Вымаганьні пробы на Правадніка:

1/ Ведае і разумее ідэйныя асновы скаўтынгу, Скаўцкую Прысягу і Права, ведае гісторыю міжнароднага і свайго скаўцкага руху, жыцьцё і дзейнасьць Бі-Пі, ведае сваю і міжнародную скаўцкую літаратуру, абавязкі скаўта і кіраўніка.

2/ Ведае мэтоды працы з Ваўчанятамі, на чым палягае ўплыў асяродзьдзя і выхаваўцы, якую ролю ў выхаваньні дзяцей адыгрываюць гульні, занядкі на вольным паветры, у залі, у лесе; якая выхаваўчая роля майстраваньня, апавяданьняў, скаўцкіх звычаяў, абрадаў, сьпеваў,

танцаў, імпрэзаў і г.д. Ведае асновы псыхалёгіі дзіцяці.

3/ Ведае праграмы зорак і спраўнасьцяў, ведае як іх праводзіць у Грамадзе. Ведае, як прышчапіць хлопцам Права Ваўчанятаў. Ведае розныя іншыя рэгуляміны і інструкцыі для Ваўчанятаў.

4/ Ведае, якія адносіны павінны быць Праваднікa да хлапцоў, да іх бацькоў, школы, царквы і да скаўцкіх уладаў.

5/ Ведае розьніцу між заняткамі Скаўтаў і гульнямі Ваўчанятаў.

6/ Ведае, якое значэньне ў разьвіцьці хлапцоў мае кіно, кніжка, тэатар, радыё. Умее падабраць цікавыя і вартасныя рэчы з вымененых галінаў і заахвоціць да іх хлапцоў.

7/ Накрэсьліць плян выхаваўчай працы ў Грамадзе і правядзе паводле яго зборку.

8/ Ведае падручнікі ў сваёй і чужой мове для Ваўчанятаў і ўмее імі карыстацца. Ведае асноўныя скаўцкія падручнікі.

9/ Ведае, як вядзецца скаўцкая гаспадарка, рахунковасьць, як арганізаваць скаўцкія прадпрыемствы, імпрэзы, экскурсіі, табары і г.д. Ведае правілы арганізаваньня, кіраваньня і пераданьня Грамады Ваўчанятаў скаўцкай адзінцы. Ведае муштру для Ваўчанятаў і Скаўтаў.

10/ Складзе самастойна праграму працы Грамады на год і абгрунтуе яе. Складзе плян працы адной зборкі ў рамах гадавой праграмы.

11/ Вядзе бяз падрыхтоўкі розныя гульні і рухавыя практыкаваньні.

12/ Выявіць здавальняючую спраўнасьць з роз-

ных галінаў скаўцкіх ведаў і скаўцкай тэхнікі да ступені Скаўта Пагоні Уключна.

13/ Выявіць дастатковыя веды з гісторыі Беларусі, беларускай літаратуры, народнай творчасьці, культуры. Арыентуецца ў фізычнай і эканамічнай геаграфіі Беларусі і Эўропы, ведае асновы прыродазнаўства, гігіены і санітарных навук. Ведае найважнейшыя дадзеныя з сусьветнай гісторыі, цывілізацыі і тэхнікі. Умее падабраць цікавыя апавяданьні для Ваўчанятаў з розных галін.

14/ Скончыць спэцыяльны курс для падскаўтмайстраў з пасьпяховым вынікам.

§25. Камісію для правядзеньня пробы на ступень падскаўтмайстра /Правадніка/ вызначае Галоўная Кватэра ЗБСЧ у складзе найменш 3 скаўтмайстраў.

Старэйшы Праваднік

§26. Старэйшы Праваднік /скаўтмайстар/ - гэта самастойны кіраўнік вышкаленьня Ваўчанятаў, які фактычна арганізуе цэласьць выхаваўчай працы ў большым маштабе. У сваёй працы павінен быць творчым, шукаць новых разьвязак розных праблемаў, зьвязаных з выхаваньнем моладзі, паляпшаць мэтоды працы і г.д.

§27. На Старэйшага Правадніка вызначае Шэф ЗБСЧ аднаго з ліку звычайных скаўтмайстраў, які адбыў спэцыяльныя курсы на Старэйшых Праваднікоў Ваўчанятаў і мае за сабой больш чым 3 гадовую практыку працы з дзяцьмі.

## Разьдзел III.

## Прырачэньне і Права Ваўчанятаў

### Прырачэньне

§28. Прырачэньне Ваўчанятаў ёсьць наступнае:

"Прыракаю, колькі будзе ў маіх сілах, служыць Богу і Бацькаўшчыне, выконваць Права Ваўчанятаў і штодзённа рабіць добры ўчынак."

§29. Тлумачэньне Прырачэньня:

Прыракаю. Ваўчок гэтым дае слова, ад якога ня можа адступіць, што будзе выконваць свае абавязкі адносна Бога, Бацькаўшчыны, свайго Праваднікa і бацькоў. Калі хлопец не датрымоўвае дадзенага слова і ня хоча працаваць над сабой ня можа быць дапушчаны да Прырачэньня.

Колькі будзе ў маіх сілах. Датрымаць Прырачэньне і выконваць яго наказы Ваўчок павінен старацца ўсімі сваімі сіламі і хаценьнямі, а калі часам заламаецца, павінен мацаваць свае сілы і волю, каб стацца больш мужным і верным Прырачэньню і Праву.

Служыць Богу. Ваўчок ад самых маладых год павінен выхоўвацца ў любові да Бога і да Яго твораў. Не баяцца Бога, але любіць Яго ўсім сваім сэрцам і рабіць усё, каб было мілае Богу. Служба Богу Ваўчка заключаецца галоўным чынам не на славах, але на паводзінах, на штодзённай працы над сабой, на добрых учынках бліжнім.

І Бацькаўшчыне. Ваўчок шануе свае нацыянальныя звычаі, цэніць над усе іншыя сваю мову, стараецца сваімі паводзінамі не панізіць нацыянальнага імя, любіць усё, што роднае, нацыянальнае: гісторыю свайго Народу, вялікіх

нацыянальных герояў, вучоных, паэта" і пісьменьнікаў, мастакоў і вынаходзцаў, жаўнераў, князёў, што заслужыліся для нашага Народу.
Выконваць Права Ваўчанятаў. Ваўчок урачыста забавязваецца выконваць некалькі наказаў, паводле сваіх сілаў і стараньняў. Права Ваўчанятаў ёсьць найважнейшымі наказамі жыцьця хлопца і падрыхтоўкай да скаўцкага шляху.
І штодзённа рабіць добры ўчынак. Складаючы Прырачэньне Ваўчок бярэ на сябе вялікі грамадзкі абавязак: кожны дзень каму-колечы зрабіць хоць адзін добры ўчынак, вялікі ці малы ў залежнасьці ад магчымасьцяў і нагоды. Аб гэтым ён ня можа забыцца, інакш наруша свае Прырачэньне і перастае быць Ваўчком, бо добры ўчынак, выкананы што дня, ёсьць доказам працы над сабой Ваўчка і выконваньня вялікай службы Богу і Бацькаўшчыне.

Права Ваўчанятаў

§30. Права Ваўчанятаў:

1/Ваўчок кахае сваю Бацькаўшчыну. Перш за ўсё кахае сваю родную мову, свае песьні, танцы, звычаі і ўсіх сваіх суродзічаў. У школе вучыцца добра, каб быць карысным сваёй Бацькаўшчыне. У Грамадзе стараецца здабыць найлепшыя вынікі, каб імя яе сталася слаўным. Ваўчок з любоўю адносіцца да нацыянальных эмблемаў, да нацыянальных герояў і змагароў, да нацыянальных легендаў, казак, да сваёй нацыянальнай гісторыі. Ён мужна выступае супроць кожнага, хто словам зьняважае, або дрэнна выказваецца аб нашым народзе, Бацькаўшчыне і аб усім, што называецца беларускім.

2/Ваўчок паслухмяны сваім бацьком і Праваднікy. Дадзенае даручэньне або наказ бацькамі ці Правадніком Ваўчок мусіць выканаць неадкладна, хоць яму гэта не падабалася, або не хацелася.

Ваўчок ня можа сказаць: "я не хачу", "я не пайду", але кожнае даручэньне выконвае ахвотна і радасна. Прыемнасьць і адпачынак адкладае на потым, перш выконвае наказ, або даручэньне, ці свой абавязак.

3/ Ваўчок заўсёды мужны. Мужны ў гульнях і практыкаваньнях, у школе і дома. Разьвівае сваю сілу, спрыт, арыентацыю, гартуе сваё здароўе, пераносіць нявыгоды і цяжкасьці, перамагае страх і слабасьць. Мужны таксама і ў словах і ўчынках: гаворыць праўду, мае адвагу прызнацца да правіны і мужнасьць папправіцца, Не ўжывае брыдкіх і непрыстойных слоў, стараецца быць усюды акуратным, чыстым, ветлівым і сяброўскім.

4/ Ваўчок стараецца быць штораз лепшым. Ваўчок ня можа сказаць, што ён асягнуў ужо найлепшыя посьпехі ў школе, у Грамадзе, у сваіх паводзінах. Кожны дзень стараецца быць лепшым ува ўсякіх адносінах: ляпей вучыцца, болей старанны, паслухмяны, ветлівы, сяброўскі, акуратны і г.д.

## Разьдзел IV.

### Утварэньне новай Грамады Ваўчанят.

§31. а/Калі Праваднік добра ведае хлопцаў і ўпэўнены, што яны надаюцца на Ваўчанятаў, можа на адной з першых зборак правесьці некалькі пробных практыкаваньняў, на аснове якіх прыступіць да зарганізаваньня Грамады.

б/Калі ня ведае добра хлопцаў - павінен не прыступаць адразу да арганізаваньня Грамады, але праз нейкі час праводзіць падрыхтавачую дзейнасьць дзеля ўсебаковага пазнаньня хлопцаў, каб магчы адразу правільна распачаць працу адпаведна да зацікаўленьняў хлап-

цоў, іх узроўню, асяродзьдзя і г.д.

в/ Падрыхтаваўчы час не павінен аднак быць даўжэйшы ад 2 месяцаў.

§32. Сам момант зарганізаваньня Грамады Ваўчанятаў павінен адбыцца ўрачыста, адначасова сьпісваецца акт заснаваньня Грамады ў хроніцы Грамады. Усе хлопцы уласнаручна падпісваюцца на гэтым дакуманце, або адціскаюць паказальныя пальцы. Апрача гэтага дакуманту можа быць зробленая кароткая запіска на паперы або іншым матарыяле гэткага зьместу:

"Дня.....194.. паўстала Грамада Ваўчанятаў /назоў, напр. "Белавескія Асілкі"/ у ................/мясцовасьць/"

і гэткую запіску, захоўваючы вялікую тайніцу, закапаць у бутэльцы, адпаведна закрытай, або схаваць у іншым сакрэтным месцы. Гэтае месца Ваўчаняты павінны добра запамятаць і даць слова, што нікому не здрадзяць.

Прыняцьце ў Грамаду.

§33. Прыняцьце кожнага новага хлапца, або некалькі хлапцоў у Грамаду адбываецца ўрачыста. На Радзе Грамады хлопцы самі запрапануюць, якія пробы павінен выканаць новаўступаючы. Вымаганьні пробы не павінны аднак быць труднымі.

§34. Самая урачыстасьць прыняцьця новага хлопца адбываецца наступна:
Пасьля уступнай пробы ўся Грамада становіцца ў паўколе. На перадзе Праваднік, а перад ім кандыдат /-ты/.

Праваднік: "Ці хочаш належаць да Вялікай Грамады Ваўчанятаў?"

Кандыдат: Так.
Хлопцы: Ці ведаеш Права Ваўчанят?
Кандыдат: Так.
Праваднік: Калі ведаеш Права Ваўчанят, то скажы перад Грамадой Ваўчанятаў.
Кандыдат голасна кажа Права Ваўчанятаў, упісвае сваё прозьвішча ў Хроніку Грамады і адціскае свой паказальны палец.
Наступна хлопцы бяруць кандыдата ў сваё кола, сплятаюць рукі па-сяброўску, а Праваднік урачыста абвяшчае:

"ЧН, прымаю цябе ў Вялікую Грамаду Ваўчанятаў".

У чэсьць прынятага, на знак Правадніка, хлопцы тройчы крычаць "Жыве". На заканчэньне пяюць вясёлыя ваўчаняцкія песьні.

§35. Новаўступаючы кандыдат павінен мець пісьмовую згоду на ўступленьне ў Грамаду ад сваіх бацькоў.

Разьдзел У.

Пробы на зоркі.

Падзел

§36. Ваўчаняты дзеляцца ў залежнасьці ад індывідуальнай падрыхтоўкі на тры ступені:

1. Ваўчаняты 1-й зоркі,
2. Ваўчаняты 2-й зоркі,
3. Ваўчаняты 3-й зоркі.

1-я зорка

§37. а/ Ваўчком 1-й зоркі можа стацца хлопец ад 7 да 11 год пасьля 3-х месячнай службы ў Грамадзе, калі выявіць акуратнасьць у навед-

ваньні занятkaў і паслухмянасьць наказам Праваднікa.

б/ Мае службовую кніжачку ўстаноўленай формы.

§38. Пры умовах пададзеных у §37 кандыдат на 1-ю зорку павінен выказацца наступным:

1/ Умее напамяць Прырачэньне і Права Баўчанятаў, вытлумачыць іх значэньне.

2/ Раскажа аб хлапцу, які заслугоўвае на Баўчка.

3/ Ведае прывітаньне, кліч і адзнакі Баўчанятаў.

4/ Ёсьць ветлівы і паслухмяны старэйшым.

5/ Ведае прозьвішчы і адрыс Праваднікa і свайго Бажака.

6/ Утрымоўвае вопратку і цела ў чысьціні, прыходзіць чысты на зборку.

7/ Умее тры агульныя гульні, 3 са сьпевам, 3 рухавыя.

8/ Раскажа 2 казкі, 3 вершы, засьпявае 3 песьні, затанцуе адзін танец.

9/ Пасьпяхова адбудзе пробы:

а/ арыентацыі: напр. у гульнях Кіма - знойдзе схаваны гадзіньнік /слух/, аловак /зрок/, цыбулю /нюх/;

б/ спрыту: напр. бегае з кніжкай на галаве, скача з каменя на камень, ловіць мячык некалькімі спосабамі;

в/ адвагі: напр. скача з завязанымі вачыма з крэсла, праскочыць невялікае вогнішча, роў, скача адразу ў ваду пры купаньні, увойдзе ў

цёмнае памешканьне.

§39. Проба на першую зорку не павінна мець характару школьнага экзаміну. Праваднік на аснове трохмесячнага назіраньня кандыдатаў, павінен іх дапусьціць да пробы або не. Калі дапусьціць, гэта ёсьць вырашаючым для атрыманьня зоркі. Проба зьяўляецца толькі ўрачыстай формай прызнаньня зоркі. Нельга аднак зусім адмовіцца ад праводжаньня пробы, бо гэта панізіла-б у вачох хлопцаў вартасьць здабытых спраўнасьцяў і зорак. Праваднік дае кожнаму кандыдату два-тры пытаньні з вымаганьняў пробы і адзначае ў сваёй кніжцы адпаведныя ацэнкі, кажучы голасна выстаўленую ацэнку.

Цэрамонія

§40. Проба адбываецца наступна:
Грамада сядзіць у вялікім кругу із скрыжаванымі нагамі. Праваднік трымае кніжку з прозьвішчамі кандыдатаў, якіх чаргова выклікае, патрабуючы выканаць адпаведны пункт пробы. Калі кандыдат памыліцца - можа паўтарыць. Пасьля сканчэньня пробы Праваднік яшчэ раз падае вынікі і вызначае дзень, калі здаўшыя пробу, будуць урачыста складаць Прырачэньне і атрымаюць 1-ю зорку.

2-я зорка

§41. Да пробы на 2-ю зорку можа быць дапушчаны хлопец, які пасьля атрыманьня 1-й зоркі адбудзе найменш 6 месяцаў у Грамадзе, у часе якой выявіць, што стараецца весьці сябе згодна з Правам Ваўчанят, ёсьць карысны дома, паслухмяны сваім бацьком і Праваднiку, вучыцца добра і умее жыць у Грамадзе.

§42. Для атрыманьня 2-й зоркі кандыдат павінен

ведаць наступнае:

1/ Сьцяг, гэрб і нацыянальны гімн; ведае як вывесіць сьцяг, як аддаецца пашана перад сьцягам і ў часе выконваньня нацыянальнага і скаўцкага гімнаў;

2/ ведае некалькі легендаў з гісторыі Беларусі;

3/ назаве важнейшыя гарады, рэкі, азёры і лясы Беларусі;

4/ назаве найбольш распаўсюджаныя расьліны, дрэвы ў Эўропе, адрозьніць расьліны і грыбы шкодныя ад няшкодных;

5/ умее захоўвацца сярод старэйшых і сваіх кіраўнікоў;

6/ дбае аб чысьціню цела /чыстыя ... заўсёды рукі, ногці, ногі, зубы, вушы,/; ведае чаму трэба захоўваць чысьціню, чаму трэба дыхаць носам;

7/ ведае, як прадусьцярагчыся некаторых хваробаў: прастуды, хваробы жывата, скурных хваробаў і г.д.;

8/ акрэсьліць час паводле гадзіньніка, кірункі сьвету паводле компасу і сонца;

9/ ведае тайнае пісьмо і тайныя знакі сваёй Грамады;

10/ раскажа аб жыцьці аднаго зьвяра;

11/ выканае два даручэньні з штодзённага жыцьця: напр. вышле ліст, затэлефануе, завядзе да лекара, купіць нешта ў краме;

12/ хутка і ціха выконвае даручэньні Правад-

ніка пры гульнях і загадах, выданых голасам або знакамі;

13/ праскочыць праз роў, пралезе праз плот, ўлезе на дрэва, праскочыць праз шнурок, перакідаецца рознымі спосабамі;

14/ умее 5 гульняў, 2 танцы, сьпявае найменш 5 песьняў;

15/ умее прышыць гузік, зашыць вопратку;

3- зорка

§43. Да пробы на 3-ю зорку можа быць дапушчаны хлопец не раней як пасьля 6-і месячнай службы ў Грамадзе па атрыманьні 2 зоркі, калі:

1/ вядзе сябе прыкладна,

2/ выконвае ўсе даручэньні бацькоў, настаўнікаў, Праваднікаахвотна і акуратна,

3/ утрымоўвае ў парадку сшыткі і кніжкі,

4/ жыве ў добрай згодзе з сябрамі, не дражніць і не ўжывае брыдкіх слоў.

§44. Пры умовах §43 трэцюю зорку можа атрымаць хлопец калі;

1/ умее напамяць нацыянальны гімн, раскажа аб некалькіх нашых героях;

2/ пакажа на карце граніцы Беларусі, рэкі, важнейшыя гарады, чым займаюцца беларусы і які іх багацьці;

3/ раскажа аб беларускіх плямёнах і іх жыцьці ў старадаўныя часы;

4/ умее напамяць Права і Прырачэньне Ваўчанятаў і іх вытлумачыць, умее гімн і песьню Ваўчанятаў; раскажа аб арганізацыі Ваўчанятаў;

5/ ведае, што рабіць, калі змочыць ногі, або прамокне на дажджы, умее перавязаць палец, ведае, што зрабіць у выпадку пабіцьця, адпараньня; разумее небясьпеку занячышчэньня ранаў, умее ціха і зручна ўслужыць хвораму;

6/ вычысьціць абутак і вопратку, старанна яе палажыць, зробіць невялікія направы вопраткі;

7/ распаліць вогнішча ня больш як трыма серначкамі, прыгатовіць дровы, напаліць у печы, ведае небясьпеку агню;

8/ зробіць нейкі прадмет з дрэва, мэталю, гліны і г.д. паводле свайго помыслу і пакажа на пробе;

9/ раскажа падробна аб жыцьці аднаго зьвяра, птушкі, /чым жыве, якую прыносіць карысьць, або шкоду для чалавека/;

10/ арыентуецца ў кірунках сьвету паводле зорак, моху, сонца, компасу і гадзіньніка;

11/ ведае ўмоўныя знакі напісаныя, дадзеныя рукамі і сьвістком;

12/ прабяжыць вызначаную дарогу з вусным даручэньнем, зложаным з 10 слоў і дакладна іх паўторыць;

13/ напіша цікавае здарэньне з жыцьця сваёй Грамады;

14/ ведае альфабэт глуханемых і тайную мову Ваўчанятаў;

15/ умее гуляць у 10 гульняў, пяяць больласьць песьняў свайй Грамады і раскажа цікавае апавяданьне або казку;

16/ выявіць спраўнасьць у некалькі гульнях - арыентацыі, спрыту, адвагі, памяці, спасьцярагаўчасьці.

§15. Уваг і адносна складаньня пробаў на 1-ю зорку /§§ 39-40/ мае ць застасаваньне і пры складаньні пробаў на 2 і 3 зорку.

Складаньне Прырачэньня

§16. Урачыстасьць складаньня Прырачэньня адбываецца пры наступнай цэрамоніі:

Грамада Ваўчанятаў стаіць у вялікім коле. У цэнтры - Праваднік, а побач яго першы Важак з сьцяжком і гэрбам Грамады. Ваўчаняты, якія маюць атрымаць 1-ю зорку і злажыць Прырачэньне твораць каля Праваднікa меншае кола. Урачыстасьць пачынаецца песьняй Ваўчанятаў. Потым Праваднік кажа кароткую прамову аб значэньні Прырачэньня і аб значэньні зоркі. Пасьля гэтага паміж Правадніком і хлопцамі, складаючымі Прырачэньне адбываецца наступная гутарка:

Праваднік: "НН, ці ведаеш Права Ваўчанят?
Кандыдат: Так.
Праваднік: Ці ты гатовы заўсёды і ўсюды яго выконваць?
Кандыдат: Так, заўсёды гатовы!

Праваднік: Калі ведаеш Права Ваўчанятаў і хочаш жыць паводле яго, то можаш злажыць Прырачэньне.
Праваднік дае каманду: "Да - Прырачэньня!"
Хлопцы становяцца на "зважай", падносяць два пальцы правай рукі на вышыню вачэй, як пры ваўчаняцкім прывітаньні, а кандыдат кажа тэкст

Прырачэньня. Сказаўшы тэкст кандыдат і хлопцы апускаюць рукі.

Праваднік :"Я упэўнены, што будзеш верны Прырачэньню і добрым Ваўчком 1-й зоркі."
Наступна Праваднік прычапляе яму зорку і падае яму левую руку. Ваўчок аддае пашану Праваднiку, паварочваецца, вітае сваіх сяброў. Хлопцы адказваюць прывітаньнем. Ваўчок адыходзіць да вялікога коля.
Калі ўсе хлопцы складуць Прырачэньне і атрымаюць зоркі, Грамада сьпявае гімн Ваўчанят, танцуе танец Ваўчанятаў і робіць памятны знак на дрэўцы гэрбу. На заканчэньне на прыканову Праваднiка Грамада ў чэсьць злажыўшых Прырачэньне і атрымаўшых зоркі падносіць кліч тройчы "жыве!"

§47. Пры ўручэньні 2 і 3 зоркі паўтараецца Прырачэньне. У сувязі з гэтым у § 46 уводзяцца некаторыя зьмены:

Праваднік: "[illegible], ці ты гатовы далей працаваць над сабой, каб быць вартым 2 /3/ зоркі?

Кандыдат: Гатовы.
Праваднік: На доказ сваей гатовасьці паўтары Прырачэньне Ваўчанятаў!
Кандыдат паўтарае Прырачэньне, падносячы два пальцы правай рукі. Хлопцы салютуюць. Потым усе апускаюць рукі.
Праваднік: Я упэўнены, што ты будзеш верным Прырачэньню і добрым Ваўчком 2 /3/ зоркі.
Начапляе зорку і падае руку. Ваўчок салютуе Праваднiка, робіць зварот і салютуе хлопцаў, хлопцы адказваюць прывітаньнем і уступае ў вялікае кола. Пяецца гімн Ваўчанятаў і адбываецца самадзейнасьць. На заканчэньне тройчы "жыве!"

Раздзел VI.

## Спраўнасьці Баўчанятаў.

§ 47. Апрача трох зорак кожны хлапец на працягу свайй службы ў Грамадзе павінен здабыць найменш 12 спраўнасьцяў.

§ 48. а/Для атрыманьня II -й зоркі вымагаецца апрача агульных дасягненьняў здабыцьцё наступных спраўнасьцяў:

Спартовец,
Кухар,
Круцігалоўка,
Ганец,
Плывак,

б/Для атрыманьня III-й зоркі вымагаецца: -
Сыгналіст,
Майстра,
Прыяцель зьвяроў,
Санітар,
Цыкліст.

в/Апрача гэтых абавязковых спраўнасьцяў устанаўляюцца наступныя адзнакі спраўнасьцяў для Баўчанятаў:

Актор,
Дэкламатар,
Жартаўнік,
Купец,
Лясны дух,
Лётчык,
Лыжнік,
Марак,
Музыка,
Прыяцель птушак,
Рабінзон,
Рысаўнік,
Сьледаход,
Сьпявак,
Стралец,
Танцор,
Танкіст,
Філятэліст,
Чыгуначнік.

§49. Спартовец



1. Любіць спартовыя гульні з мячам і бяз мяча. 2. Ахвотна гімнастыкуецца. 3. Зробіць некалькі практыкаваньняў на турніку. 4. Скочыць узвыш на 110 см., удаль 250 см., прабяжыць 50 м. у 7 сэк. 5. Трапляе мячам у мэту, кідае каменем на большую адлегласьць. 6. Улезе на дрэва, пералезе цераз плот вышыні 2 м. пры дапамозе сябры, праскочыць раў 1 м. 7. стане на руках і перакідаецца некалькі спосабамі. 8. Пройдзе па вузкай кладцы. 9. Гуляе у 5 рухавых гульняў. 10. Затанцуе спрытна танец Ваўчанят.

§50. Кухар



1. Распаліць агонь у полі і у печы. 2. Зварыць каву, малако, бульбу, кашу, зацірку, крупнік і яйкі. 3. Прыгатовіць да варэньня буракі, моркву, бульбу. 4. Прыгатовіць хлеб да яды. 5. Зварыць абед на 3 асобы.

§51. Круцігалоўка.



1. Разгадвае лёгка загадкі, круцігалоўкі, рэбусы з дзіцячых часапісаў. 2. Сам укладае загадкі і круцігалоўкі. 3. Ведае некалькі рахунковых штучкаў, як напр. адгадае задуманую лічбу, укладае магічныя квадраты.

§52. Ганэц.

1. Ведае у свайй аколіцы розныя крамы: спажывецкія, пісьмовыя, галянтарыйныя, сталоў-



кі, кнігарні, краўца, шаўца, цырульніка. 2. Завядзе да лекара, у аптэку, да пажарнай аховы і на пошту. 3. Занясе пісьмо да мясцовага скаўцкага кіраўніцтва. 4. Заадрысуе звычайны ліст і вышле поштай. 5. Выканае іншае даручэньне Ганца. 6. Ведае скаўцкія ўмоўныя знакі, знакі валацужнікаў і найважнейшыя дарожныя знакі. 7. Пакажа кірункі сьвету ў месцы свайго жыхарства, вызначыць компасам кірункі сьвету. 8. Вернецца дадому з адлегласьці 8 км. з няведамай мясцовасьці.

§53. Плывак



1. Пераплыве жабкай 25 м. Плавае некалькі спосабамі. 2. Пераплыве ў лёгкай вопратцы 15 м давольным стылем. 3. Умее ныраць і скача адразу ў ваду з вышыні 1,5 м.

§54. Сыгналіст



1. Паслугоўваецца знакамі свайй Грамады, дадзенымі рукой, сьвістком і сьцяжком. Ведае і карыстаецца скаўцкімі знакамі ў тэрэне. 2. Ведае тайныя знакі Грамады. 3. Ведае сыгналы, напатыканыя ў найбліжэйшай аколіцы, напр. сыгналы вулічнага руху ў горадзе, на чугунцы, дарожныя і рачныя. 4. Запамятае даручэньне з 12 слоў і пасьля 5 мін. паўторыць. 5. Ведае альфабэт глуханемых.

§55. Майстра

1. Умее паслугоўвацца пілкай, нажом, долатам і гэблікам. 2. Зробіць з дрэва, паперы, гліны



мэталю некалькі мадэляў, нпр. возік, санкі, самаход танк, самалёт. 3. Умее склеіць пабіты сподак, талерку, кубак. 4. Апразіць невялікую кніжку. 5. Зробіць мятлу да замятаньня. 6. Зашые вопратку, зробіць невялікую направу абутку. 7. Умее паслугоўвацца малатком, абцугамі, ножніцамі да бляхі. 8. Направіць зломаную лаўку, столак і інш.

§56. Прыяцель зьвяроў



1. Гадуе нейкага зьвярка і наглядае яго жыцьцё штодзённа. 2. Раскажа, як гэты зьвярок праводзіць дзень, як сьпіць, шукае ежы, гуляе, каго найбольш любіць. 3. Гуляе са сваім зьвярком, корміць яго і утрымоўвае ў чысьціні. 4. Нарысуе свайго зьвярка і яго сьлед /троп/. 5. Раскажа аб жыцьці дзікіх зьвяроў на Беларусі: ваўка, мядзьведзя, лісіцы, барсука, вавёркі, зубра.

§57. Санітар



1. Умее зробіць невялічкую перавязку. 2. Ведае дэзынфэкцыйныя сродкі і як імі карыстацца. 3. Ведае небясьпеку занячышчэньня ранаў, прастуды, піцьця непераванай вады. 4. Утрымоўвае сябе ў старанней чысьціні /зубы, вушы, валасы, ногі, рукі/. 5. Умее заапякавацца хворым, утрымаць у чысьціні пакой хворага. 6. Зьмерыць тэмпэратуру хворага, ведае, дзе знаходзіцца аптэка, лекар, тэлефон, выкліча лекара да хворага.

§58 Цыкліст.



1. Сядзе і саскочыць з самакату. 2. Спраўна эзьдзіць. 3. Абмінае спраўна перашкоды і гамуе. 4. Праедзе па кладцы і зробіць васьмёрку /рад. 5 м./ Ведае найважнейшыя правілы руху. 6. Ведае найважнейшыя часткі самакату. 7. Утрымоўвае самакат у чысьціні.

§59. Актор.



1. Умее вясёла і забаўна апавядаць апавяданьні, казкі. 2. Дэклямуе прыгожа вершы. 3. Засьпявае некалькі песьняў і навучыць сваіх сяброў. 4. Бярэ ўдзел у інсцэнізацыях на сцэне і пры вогнішчы. 5. Танцуе некалькі танцаў.

§60. Дэклямата



1. Умее прыгожа дэклямаваць, вершы, апавяданьні, казкі.
2. Заінсцэнізуе некалькі вершаў і навучыць іншых хлопцаў прыгожа дэклямаваць. 3. Мае выпісаныя найпрыгажэйшыя вершы, апавяданьні, казкі, песьні, жарты ў сваім сшытку. 4. Сам укладае кароткія вершыкі і жартыкі.

§61. Жартаўнік



1. Ёсьць заўсёды вясёлы.
2. Умее разьвясяліць Грамаду гульнямі, сьпевам, жартамі, танцам і рознымі штучкамі.
3. Зайграе на гармоніку да танцу, на грэбяні ці на іншым простым інстру-

манцо. 4. Напісуе нешта вясёлае, скажа некалькі вершыкаў вясёлага зьместу. 5. Падгледзіць вясёлую сцэну з жыцьця Грамады і патрапіць яе заінсцэнізаваць.

§62. Купец



1. Ведае, якія крамы знаходзяцца ў ягонай ваколіцы. 2. Зробіць у краме некалькі закупаў. 3. Умее кіраваць крамікам Баўчанятаў, прадаваць розныя рэчы і абслугоўваць кліентаў. 4. Зробіць акуратную апакоўку. 5. Ведае добра таблічку множаньня, умее дадаваць, адымаць, дзяліць да тысячы.

§63. Лясны дух



1. Мае свай схoвішча на дрэве ў лесе. 2. Ведае ваколіцу на 250 м. ад свайго дрэва. 3. Ведае зьвяркоў, пражываючых у лесе, іх жыцьцё, адрозьніць іх галасы, некаторых падробіць. 4. Пакажа найважнейшыя гатункі лясных дрэваў, кустоў, ядальныя ягады і грыбы. 5. Ведае лясныя кветкі. 6. Раскажа легенды аб кветцы папараці. 7. Умее вершыкі аб лесе і казкі аб лясных духах.

§64. Лётчык



1. Збудуе мадэль самалёту. 2. Зробіць некалькі тыпаў зьмяёў-лятуноў. 3. Робіць забаўкі з прапэлярам. 4. Зробіць парашут. 5. Акрэсьціць рознымі спосабамі кірункі ветру, кірункі сьвету. 6. Вы--

яўляе ў гульнях адвагу і спрыт.

§65: Лыжнік.

1. Спраўна езьдзіць на каньках. 2. Сам накладае канькі, умее кансэрваваць абутак. Захоўваецца на лёдзе так, каб не перашкаджаць іншым. 3. Дасьць сабе раду ў выпадку адмарожаньня. 4. Езьдзіць на санках. 5. Трымаецца добра на лыжах. Праедзе 1 км. на плоскім тэрэне. Спусьціцца з горкі 10 м высокай і ўзыдзе на яе на лыжах. 6. Умее кансэрваваць лыжы.



§66. Марак

1. Ёсьць адважны, спрытны і сільны. 2. Умее добра плаваць і ныраць, скача проста ў ваду. 3. Ходзіць па дошцы з цяжарам і бяз, па драбіне і улазіць на машт. 4. Умее езьдзіць лодкай і вяславаць. 5. Умее паслугоўвацца лярнэткай, компасам. 6. Ведае марацкія спосабы вязаньня вузлоў. 7. Прачытае кніжку аб марскіх падарожжах і прыгодах. 8. Збудуе мадэль вадаплаву. 9. Засьпявае некалькі песьняў маракоў. 10. Адбудзе наймене 2 гадз. падарожжа лодкай або параходам.



§67. Музыка

1. Умее зайграць з памяці лёгкія мэлёдыі на якім-колечы інструманце. 2. Зайграе некалькі ваўчанядкіх песьняў і народных мэлёдыяў да танца. 3. Грае на зборках і ўрачыстасьцях грамады. Ведае некалькі музычных інструмантаў, распазнае іх



па гуках. 4. Раскажа цікавую гісторыю з жыцьця музыкаў.

## §68. Прыяцель птушак



1. Ведае восем гатункаў птушак: верабей, сінічка, дзяцел, шчыгел, дрозд, ластаўка, бусел, жораў, зязюля, сава, варона, крук. 2. Ведае чым кормяцца, як будуюць гнёзды, якія выдаюць галасы. 3. Пазнае па голасе птушку. 4. Збудуе домік для птушак, зімой іх корміць. 5. Раскажа на зборцы цікавае апавяданьне з жыцьця птушак. 6. Зьбярэ калекцыю абразкоў з рознымі птушкамі ў асобным сшытку.

## §69. Рабінзон



1. Мае сваё схованішча добра замаскаванае. 2. Ведае аколіцу ў адлегласьці 500 м. ад свайго схованішча /сьцежкі, мурашнікі, гнёзды, цікавыя дрэвы, крынічкі і г.д./ 3. Зробіць зброю і строй ляснога чалавека. 4. Распаліць агонь бяз запалак /красаньнем/ і прыгатовіць сабе ежу з прадуктаў самым здабытых. 5. Умее падаваць сыгналы. 6. Прачытае кніжку аб Рабінзоне Крузо.

## §70. Рысаўнік



1. Прыгожа нарысуе і размалюе некалькімі колерамі малюнак да апавяданьня. 2. Зробіць выразанку з паперы. 3. Старанна нарысуе гэрб сваёй Грамады. 4. Упрыгожывае

Хроніку Грамады рознымі малюнкамі і ахвотна выконвае патрэбныя рысункі і малюнкі ў Грамадзе.

§71. Сьледаход

1. Умее карыстацца скаўцкімі знакамі і іх распазнае. 2. Распазнае сьляды сваіх сяброў, каня, сабакі, каровы, авечкі, курыцы, зайца. 3. Умее наблізіцца да зьвяра. 4. Ведае жыцьцё найчасьцей у нас спатыканых дзікіх зьвяроў. 5. Нарысуе зьвярка і ягоны троп. 6. Ведае найменш 5 гульняў із сьледаходзтва. 7. Ведае спосабы маскаваньня, падрабляе галасы дзікіх зьвяроў.



§72. Сьпявак.

1. Засьпявае некалькі песьняў. 2. Навучыць хлопцаў некалькі песьняў. 3. Пачынае песьні у Грамадзе. 4. Выступае са сьпевам соло. 5. Мае ў сваім сшытку перапісаныя ваўчаняцкія і іншыя дзіцячыя песьні.



§73. Стралец

1. Зробіць лук і стрэлы. 2. З 10 стрэлаў з аддегласьці 8 м. трапіць найменш 5 разоў у круг /веліч. 30 см/. 3. Страляе стоячы і кленчачы. 4. Захоўвае асьцярожнасьць пры страляньні. 5. Зробіць пісталет, стрэльбу, кідаючыя стрэлы. Кідае трапна каменьнямі правай і левай рукой 6. Страляе з рагаткі на 25 м /2 трапныя на 5 стрэлаў/ у круг 20 см.



§74. Танцор



1. Спрытна танцуе танцы Грамады, найменш два нацыянальныя танцы /напр. Лявоніху, Юрачку, Мяцеліцу/. 2. Бярэ ўдзел у аматарскіх пастаноўках з танцамі і сьпевамі. 3. Ведае найменш 2 плястычныя танцы, затанцуе лягчэйшыя мэлёдыі. 4. Затанцуе фантастычны танец уласнай кампазыцыі.

§75. Танкіст



1. Зробіць мадэль танка і раскажа аб паасобных частках мадэлю. 2. Адрозьніць тыпы танкаў. 3. Прачытае кніжку аб танках для дзяцей. 4. Зьбірае малюнкі розных танкаў. 5. Ведае значэньне танкаў, наведае фільм, дзе паказаная танкавая вайна.

§76. Філятэліст



1. Стала зьбірае пачтовыя маркі. 2. Мае старанны альбом пачтовых марак. 3. Адрозьніць край паходжаньня розных марак. 4. Умее вымяньваць і камплектаваць маркі ў сваім альбоме. 5. Раскажа хлопцам аб розных краінах, ілюструючы апавяданьне пачтовымі маркамі.

§77. Чыгуначнік



1. Збудуе з дрэва цягнічок. 2. Ведае чыгуначныя знакі. 3. Ведае найважнейшыя правілы руху на чыгунцы. 4. Купіць білет і паедзе ў іншы горад ця-

гнікам. 4. Пакажа на карце чыгуначныя лініі і масты. 5. Прачытае кніжку з жыцьця маладых чыгуначнікаў.

§78. Прызнаньне спраўнасьцяў

а/ Проба на прызнаньне спраўнасьцяў адбываецца падобна як проба на зоркі. Праводзіць яе спэцыяльная Камісія ў складзе 3 асобаў, вызначаная Штандаровым і зацьверджаная Галоўнай Кватэрай ЗБСЧ. На чале Камісіі стаіць скаўтмайстар. Проба мае характар практычны.

б/ Прызнаньне спраўнасьцяў адбываецца ўрачыста. Хлопцы прыходзяць на зборку з усімі прадметамі, якія яны зрабілі з галіны данай спраўнасьці /напр. лётнік прыносіць мадэль самалёту, стралец - зброю і г.д./ Можна таксама запрасіць сапраўнага спэцыяліста, дзеля ўручэньня адзнакаў спраўнасьцяў.

г/ Адзнакі спраўнасьцяў павінны быць выканаы эстэтычна паводле пададзеных у Рэгуляміне ўзораў. Да адзнакі прычапляецца ўстужка з выпісаным прозьвішчам хлопца. Адзнакі ўкладаюцца на прыгожай падушачцы. Апрача гэтага павінен быць прыгатоўлены малаток і гвоздзікі да прымацаваньня ўстужак да дрэўца Гэрбу Грамады.

§79. Урачыстасьць уручэньня адзнакі

Самая урачыстасьць уручэньня адзнакі спраўнасьці можа адбыцца наступным спосабам:

Хлопцы ўстаўляюцца ў вялікім паўколе. На сярэдзіне ўстаўляецца Гэрб Грамады і Сьцяжок. Грамада сьпявае Песьню Ваўчанятаў. Пасьля Правадпік вычытвае прозьвішчы хлапцоў, якія маюць атрымаць адзнакі спраўнасьцяў. Выкліканыя хлопцы падыходзяць да Гэрбу Грамады і

ўстаўляюцца ў меншым цаўколе. Праваднік коратка прамаўляе, заахвочваючы ўсіх яшчэ болей працаваць над сабой, каб асягнуць далейшыя адзнакі. Наступна бярэ падушачку з адзнакамі і выклікае хлопцаў, чытаючы прозьвішчы з устужак. Выклікаңыя падыходзяць да Праваднікa, які кажа:

"Прызнаю табе адзнаку спраўнасьці /назоў/. Змагайся за здабыцьцё далейшых спраўнасьцяў!"

Хвіліна цішыні. Праваднік прычапляе адзнаку на правым рукаве хлопца і гэты апошні салютуе і адыходзіць у вялікі паўкруг, а устужачку прымацоўвае Праваднік да дрэўца Гэрбу Грамады. Цэрамонія гэткая паўтараецца пры прызнаваньні адзнакі спраўнасьці кожнаму хлопцу. На заканчэньне хлопцы сьпяваюць Гімн Ваўчанятаў. Можа адбыцца паказ дзіцячай самадзейнасьці.

Гэрб з устужкамі адносіцца ў скаўцкую сьвятліцу. Зборка канчаецца клічам "жыве!" у чэсьць атрымаўшых адзнакі спраўнасьцяў.

Увага: Здабытая і прызнаная спраўнасьць упісваецца Праваднікам у Кніжачку Ваўчка.

## Разьдзел XII

## Прывітаньне і кліч

§30. Ваўчаняты вітаюцца між сабой, са скаўтамі і кіраўнікамі, калі маюць накрыцьцё галавы /бэрэт/, прыкладаючы два пальцы правай рукі да накрыцьця галавы над правым вокам. Пальцы трохі расхілены, сымбалізуюць ваўчка, вялікі палец прытрымоўвае два іншыя пальцы.





Калі няма ецца накрыцьця галавы і ў часе Прырачэньня падносіцца два пальцы правай рукі, схіленай у локці на вышыню вачэй.

§31. Клічам Ваўчанятаў ёсьць " г а т о в ы" /прыпамінаючы скаўцкае "напагатове"!/ і выражае сталую гатовасьць Ваўчка працаваць над сабой, выконваць Права Ваўчанятаў і служыць іншым. Адказ - " з а ў с ё д ы!".

§32. Дзеля выражэньня пашаны, або радасьці ў часе ўрачыстых хвілінаў падаецца кліч тройчы " ж ы в е "!.

## Р а з ь д з е л VIII

## <u>У н і ф о р м а В а ў ч а н я т</u>

§33. Уніформа Ваўчанятаў складаецца з наступных частак:



а/ накрыцьцё галавы - бэрэт, аднолькавага колеру для ўсёй Грамады /чорны, гранатовы, зялёны/,

б/ блюзка - колеру хакі, або зялёнага, крой скаўцкі <u>бяз наплечнікаў</u>, якія прыслугоўваюць толькі скаўтам. Пасьля атрыманьня 3 зоркі нашываюцца папярэчныя паскі, шырынёй 1 см., за якія, пасьля пераходу да скаўцкай Дружыны, начапляюцца наплечнікі.

в/ порткі скаўцкія, кароткія да кален, аднолькавага

колеру ў Грамадзе;
г/ панчохі да кален - колер порткак;
д/ абутак /чаравікі/ - чорныя;
ж/ скаўцкая хустка - аднолькавага колеру ў Грамадзе /паводле выбару/, закладаная пад каўнерык. Трыкутнік выпускаецца на плечы.
з/ спартовы пояс - зялёнага колеру;
е/ зімовая уніформа: блюзка, панчохі, чаравікі як вышэй, апрача гэтага:

свэтар - зялёнага колеру. Каўнерык блюзкі выпускаецца на верх,
порткі - спартовыя, зашпіляныя пад каленам,

і/ скаўцкі ножык - на поясе з левага боку.

Уніформа Кіраўніцтва Ваўчанятаў

§84. Кіраўніцтва Ваўчанятаў носіць уніформу такую, як Кіраўніцтва Скаўтаў /Малодшы Праваднік - уніформу Скаўта Пагоні, Праваднік і Старшы Праваднік - уніформу скаўтмайстра/.

Адзнакі Ваўчанятаў

§85. а/Адзнакай Ваўчанятаў ёсьць міжнародны значок - галава ваўчка, вышыты на кружку, колеру бэрэту. Носіцца на бэрэце спераду. Велічыня кружка 3 см.

б/ Мэталёвы значок /галава ваўчка/ носіцца на блюзцы /або свэтры/
над левым кішанём /1,5 см/, зорак.

§86. Важак носіць на левым рукаве вышэй локця вінкель роўнабочны /даўжыня боку - 3 см/ колеру хусткі, вострым канцом уніз.

§87. Зоркі - малыя пяцікутныя /1,5 см/ носяцца шэрагам /водступ 1,5 см/ над левым кішанём блюзкі, ніжэй "ваўчка".

§88. Адзнакі спраўнасьцяў - паводле ўстаноўленага ўзору, носяцца на правым рукаве. Велічыня боку трыкутніка 3 см.

§89. Адзнакай ЗБСЧ для Ваўчанятаў ёсьць нашыўка з надпісам у ангельскай мове:

якая носіцца на левым рукаве ўгары.

Увага: З хвілінай пераходу Ваўчка да скаўцкай Дружыны можа ён затрымаць мэталёвую адзнаку ваўчка, як памятку і насіць яе на левым кішані скаўцкай блюзкі.

Адзнакі Праваднікоў

§90. Малодшы Праваднік носіць галаву Ваўчка сіняга колеру, выразаная з сукна /4см/, на левым рукаве вышэй локця.

§91. Праваднік носіць галаву ваўчка /4 см/, выразаную з зялёнага сукна на левым рукаве блюзкі ніжэй скаўтмайстарскай лілейкі.

§92. Старшы Праваднік - чырвонага колеру такую адзнаку, як у Праваднікa.

Увага: Скаўтмайстарская лілейка - на чырвоным авальным фоне, велічынёй 5,5 см х 4 см скаўцкая лілейка, жоўтага колеру з літарамі СК, у абрамаваньні жытніх каласоў.

Адзнакі функцыяў

§93. Адзнакай выконваных функцыяў ёсьць скаўцкія шнуркі:

а/ Малодшы Праваднік носіць сіні шнурок ад левага наплечніка да левага кішаня блюзкі,

б/ Праваднік і Старшы Праваднік - сярэбраны шнурок на шыі,

в/ Рэфэрэнт Ваўчанятаў пры Штандары - чырвоны шнурок на шыі,

г/ Рэфэрэнт Ваўчанятаў пры Галоўнай Кватэры - жоўты шнурок на шыі.

Увага: Ваўчаняты ня носяць зусім скаўцкіх шнуркоў.

## Р а з ь д з е л IX

## Гэрб і Сьцягі Грамады

§94. Кожная Грамада мае свой Гэрб і Сьцяг, а кожная Шостка - Сьцяжок. Гэрб Грамады павінен быць выбраны Праваднікам супольна з усёй Грамадой, выражаць імкненьні, плопцаў і назоў Грамады. Гэрб малюецца на фанэры і носіцца на палцы. Велічыня Гэрбу 35 см х 25 см, даўжыня палкі 150 см.

§95. а/ Сьцяг Грамады мае выгляд трыкутніка, колер скаўцкай хусткі. Разьмеры Сьцягу: 40 х 25 см. На адным баку - Гэрб Грамады, на другім назоў /напр. Грамада Адважных Ваўчанятаў/. Палка Сьцягу: даўжыня 150 см, таўшчыня 3 см.

б/ Кожная Шостка мае свой сьцяжок аднолькавых разьмераў: 30 х 15 см. Даўжыня палкі - 130 см, таўшчыня 3 см. Колер сьцяжка як скаўцкая хустка у Грамадзе. На сьцяжку татэм Шосткі /зьвярок, штушка, лісток дрэва/.

§96. Гэрбам і Сьцягом Грамады, як сымбаляміВаўчанятаў, апякуюцца вызначаныя хлопцы заслугоўваючыя на гэтае ганаровае становішча.

§97. Гэрб ужываецца ў часе большых урачыстасьцяў, Сьцяг на урачыстых зборках, у часе паходаў, палявых заняткаў, пры спатканьнях, у лягерох і г.д.

§98. Гэрб і Сьцяг Грамады уручаюцца ў часе ўрачыстай зборкі. Цэрамонія наступная:

Збокра ў вялікім коле. Песьня Ваўчанятаў. Па сярэдзіне кола - столік, прыгожа засланы, на ім Гэрб, або Сьцяг Грамады, малаток і памятны гвозьдзь з датай уручэньня. Правадніk мае гутарку, як калісьці рыцары атрымлівалі гэткія знакі і іх сьцераглі. Наступна убівае памятны гвозьдзь у дрэўца і перадае знак / гэрб, або Сьцяг/ Малодшаму Праваднiку, а гэты першаму В а ж а к у. У часе перадаваньня сымбалю сьпяваецца Гімн Ваўчанятаў. Важак прымаючы сымбаль бярэ яго і цалуе, потым адыходзіць на сваё месца.
Праваднiк: "Хлопцы, атрымалі вы знак Вялікай Грамады Ваўчанятаў, знак гонару і славы. Служыце так Богу, Бацькаўшчыне і бліжнім, каб знак ваш акрыўся вялікай славай!"

Хлопцы адказваюць хорам: "Будзем верна служыць Богу і Бацькаўшчыне!"

## Р а з ь д з е л X.

### Назовы Грамады і Шостак

§99. Назоў Грамады, падобна як і Гэрб, павінен выражаць імкненьні хлопцаў і мець сталую вартасьць. Яго выбіраюць самі хлопцы разам з Праваднiком. Кіравацца трэба пры гэтым выбары назову Грамады наступнымі вытыч-

нымі:

а/ ня можна выбіраць прозьвішчаў вялікіх беларусаў - гэта прызначана для скаўцкай моладзі / напр. ім. Вітаўта, ім. Кастуся Каліноўскага/;

б/ ня можна выбіраць назоваў зьвяроў, каб не мяшаць з татэмамі Шостак;

в/ ня можна называць Грамады назвамі спраўнасьцяў.

Назовы можна тварыць трыма спосабамі:

а/ дадаючы прыметнікі, напр. "Грамада Адважных Ваўчанятаў", Грамада Вясёлых Ваўчанятаў, Мужных, Услужных і г.д.

б/ бяручы нейкага героя з повесьці, або гісторыі, напр. "Хлопцы Князя Чарадзея"

в/ бяручы назоў з геаграфічных беларускіх назоваў, як напр. "Наднёманскія асілкі", "Хлопцы з-над Дняпра" і г.д.

г/ можна таксама назваць Грамаду казачнымі назовамі, напр. "Крылята Грамада", "Хлопцы Малойцы" і г.д.

Назовы Шостак

§100. Назовы Шостак можна лучыць з назовам Грамады, напр. "Беларускія Зубры" можа мець Шосткі, названымі імёнамі розных зьвяроў: Барсукі, Мядзьведзі, Лісы, Куніцы, Рысі, або імёнамі птушак: сокалы, ястрабы, галубы, сарокі і г.д., або назвамі дрэваў: клёны, дубы, ясені, грабы, і г.д.
Могуць таксама Шосткі называцца ад прозьвішчаў Важакоў, напр. Шостка Макарчыка, Пятруся і г.д.

§101 Назовы Шостак можна зьмяняць у залежнасьці ад патрэбы. Зьмена назову Грамады вымагае згоды Кіраўніцтва Штандару і Галоўнай Кватэры.

## Разьдзел XI

## Рэгістрацыя Грамады

§102. На зарганізаваньне Грамады Ваўчанятаў неабходна атрымаць дазвол ад Кіраўніцтва Штандару. Бяз гэткага дазволу зарганізаваная адзінка ня мае права называцца Грамадай Ваўчанятаў ЗБСЧ.

§103. Дазвол на заіснаваньне Грамады ня ёсьць яшчэ раўназначны з прыняцьцем да ЗБСЧ. Гэта можа наступіць пасьля 2 месячнага пробнага пэрыяду, у часе якога Грамада знаходзіцца пад назіраньнем Скаўцкага Інспэктара, а Праваднік выявіць дастатковыя веды і умеласьць кіраваньня Грамадой. Скаўцкі Інспэктар перасылае свае назіраньні ў адзельным рапарце Кіраўніцтву Ваўчанятаў пры Штандары, копію ў Галоўную Кватэру ЗБСЧ. На аснове рапарту Грамада можа быць унесена у рээстр Ваўчанятаў, які знаходзіцца ў Галоўнай Кватэры ЗБСЧ. Галоўная Кватэра выдае адпаведнае пасьведчаньне і ад гэтага часу Грамада ўваходзіць у склад ЗБСЧ, як поўнапраўная адзінка.

## Разьдзел XII

## Фонды

§104. Фонды самастойнай Грамады складаюцца са складак, прыбыткаў з розных імпрэзаў і гаспадарчай дзейнасьці Грамады /крамікі, продаж вырабаў/ і ахвяраў грамадзянства.

§105. Сяброўская складка дляВаўчанят на месяц у Нямеччыне выносіць 50 ф.

§106. Сяброўскія складкі ад Ваўчанятаў зьбірае сам Праваднік на зборках і не павінен даручаць грашовых справаў хлопцам. Спосаб зьбіраньня складак можа быць наступны: Праваднік на звычайнай зборцы выклікае хлопцаў якія кідаюць складку ў скарбонку. Пры ўпісваньні прозьвішчаў Праваднік урачыстым голасам кажа: "Запісаў табе 50 ф. на месяц кастрычнік", адначасова наклейваецца марка 50 ф. у службовую кніжачку Ваўчка.

§107. 25% усіх прыбыткаў Грамада плаціць ў Штандар, а гэты апошні 25% у Галоўную Кватэру.

§108. Грамада, якая існуе пры Сьцягу, не вядзе самастойнай гаспадаркі і ўсе грошы ўносіць у агульную касу Сьцягу.

## Разьдзел XIII

### Муштра Ваўчанятаў

§109. Муштра Ваўчанятаў ня ёсьць вайсковай муштрай, але своеасаблівай, дапасаванай да веку хлопцаў. Ад хлопцаў нельга вымагаць тых формаў, што ад Скаўтаў, або жаўнераў.

Кліч

§110. На кліч "Ўвага"!, або "гатовы!", або "Грамада!", або іншы ўмоўны знак /сьвісткок, голас нейкага зьвяра, рух рукі/ хлопцы становяцца на "зважай" і чакаюць у цішыні на далейшы загад.

Зборкі

§111. Ваўчаняты не становяцца ў дву -, або

трышэрагу. Маюць яны сваю форму зборкі: вялікі круг, поўкруг, шосткамі, урад, у марш - зборка!

Вялікі круг

§112. На каманду: "Вялікі круг!" устаўляюцца хлопцы хутка і ціха ў кола, адзін каля аднаго і сядаюць на зямлю са скрыжаванымі нагамі /"па-турэцку"/. Калі зямля мокрая - стаяць на "вольна". Кола павінна быць роўнае і прыгожае. Праваднік таксама сядзіць /стаіць/ на кругу кола. Адлегласьць аднак паміж ім і хлопцамі павінна быць большай, як паміж хлопцамі. "Вялікі круг" ёсьць нармальнай формай зборкі Грамады на розных занятках.

Поўкруг

§113. На каманду "Поў-круг!" - хлопцы хутка і ціха ўстаўляюцца ў форме паўкола перад Праваднікам. Гэтая форма зборкі можа быць ўжываная ў часе ўрачыстых зборак, як прыняцьце новага кандыдата, пры складаньні Прырачэньня, уручаньні зорак, адзнакаў спраўнасьцяў і г.д. а таксама у тых выпадках, калі лік хлопцаў невялікі, або месца не дазваляе ўтварыць поўнае кола. Важакі заўсёды знаходзяцца пры сваіх Шостках.

Шосткамі зборка

§114. Каманда "Шосткамі - зборка!" падаецца ў тых выпадках, калі хочам правесьці з хлопцамі гульні ці іншыя занятки Шосткамі. На гэтую каманду хлопцы ўстаўляюцца ў шэрагу Шосткамі з Важакамі на чале, адна Шостка за другой, або на вызначаным месцы.

Урад зборка

§115. "Урад - зборка!" падаецца, калі хочам

уставіць хлопцаў у адзін рад для правядзеньня гульняў ці іншых заняткаў. Хлопцы устаўляюцца адзін за другім.

Марш

§116. Спэцыяльных камандаў да сфармаваньня маршовай калоны не падаецца. Калі хочам уставіць хлопцаў у маршовую калону, то падаем каманду: "Да маршу - зборка!" Хлопцы устаўляюцца па трох /тройкамі/ адны за другімі паводле ўзросту, або Шосткамі. Важакі пры сваіх Шостках на правым баку калоны.

На каманду "Грамада - марш!" - хлопцы адначасова выступаюць левай нагой і ідуць спакойным роўным крокам, свабодна макаючы рукамі. У маршы хлопцы абавязаны паўстрымоўвацца ад крыкаў і сьмеху, пакуль не дазволіць Праваднік. У маршовай калоне абавязвае раўнаньне і крыцьцё.

Стой

§117. Для спыненьня маршу падаецца каманда: "Грамада - стой!" На стой хлопцы аднача‌сова спыняюцца і становяцца на"вольна".

Звароты

§118. Падаюцца звароты "Управа - фронт!", "улева - фронт!", "у тыл - фронт!". Спосаб выкананьня, як у Скаўцкім Страявым Статуце, ч. I.

У маршы падаецца: "кірунак - управа!", "кірунак - улева!".

§119. Іншыя каманды, як"сядай!", "устань!", "лягай!" падаюцца ў меру патрэбы. Не вымагаецца дакладнасьці ані аднача‌совасьці выкана-

ньня. Да сяброўскага кола падаецца каманда: "сяброўскі - круг!" Хлопцы устаўляюцца ў кола і падаюць накрыж сабе рукі /правая на версе/.

§120. Праваднік можа ў агульнасьці зазнаёміць хлопцаў з іншымі відамі муштры, прадбачаной для Скаўтаў, як напр. пры здаваньні рапарту, пры падыманьні і апусканьні сьцягу не павінен толькі бачыць у муштры Ваўчанят больш, чым гэта неабходна для зарганізаваньня хлопцаў у Грамадзе.

§121. Некаторыя формы муштры Ваўчанятаў падаными пры розных цэрамоніях і урачыстасьцях.

Пачатак зборкі

§122. Зборкі Ваўчанятаў пачынаюцца традыцыйным спосабам пры захаваньні ўрачыстых формаў. Хлопцы ўстаўляюцца ў вялікае кола /або паўкола/, падаюць сабе скрыжованыя рукі і сьпяваюць песьню Ваўчанятаў. Пасьля сядаюць на зямлю і прыступаюць да звычайных заняткаў. Пасьля песьні можа Праваднік спраўдзіць чысьціню цела, вопраткі і абутку, не павінен гэтага аднак рабіць паводле вайсковых формаў "перагляду".

Канец зборкі

§123. Хлопцы твораць вялікае кола, пасярэдзіне Праваднік. Усе прысядаюць са спушчанымі рукамі і паднесенымі галовамі /як ваўкі/. Праваднік паднесеным голасам:

"Пастарайцеся, хлопцы, запамятаць добра, што наступная зборка адбудзецца ў чацьвер а гадз трэйцяй"!

Хлопцы працяжна тройчы адказваюць:"пастараемся!"

Правадонік: "Пастарайцеся, хлопцы, зрабіць /выменяе заданьне/".

Хлопцы працяжна і тройчы: "Пастараемся!"

Правадонік: /падае вывадныя думкі з дня зборкі/ напр.: "пастарайцеся, хлопцы, зрабіць вялікую прыемнасьць сваім бацьком!", "зрабіць добры ўчынак для іншых", "быць паслухмяным сваім настаўнікам!"

Хлопцы працяжна і тройчы: "Пастараемся!".

Увага : На кожнай зборцы падаюцца новыя клічы, адпаведна да зьместу праведзеных заняткаў. Наступна сьпяваецца Песьня Ваўчанятаў, пры агнішчы "Ноч ідзе..." Правадонік разьвітваецца з хлопцамі клічам "гатовы!" Хлопцы адказваюць: "заўсёды!" /адзін раз/ і з крыкам разьбягаюцца дадому.

## Р а з ь д з е л XIУ

## Канцылярыя Грамады

§124. Канцылярыя Грамады Ваўчанятаў складаецца:

а/ з Кнігі Правадоніка,
б/ Хронікі Грамады.

§125. Кніга Правадоніка павінна зьмяшчаць:

1/ Іменны сьпісак хлопцаў Грамады /№, прозьвішча і імя, кляса і школа, дата нараджэньня, адрыс, прафэсія бацькоў, дата ўступленьня ў Грамаду, даты Прырачэньня, атрыманых зорак, спраўнасьцяў і дату адыходу/. Да сьпіску далучаныя пісьмовыя згоды бацькоў на прыналежаньне да Арганізацыі Ваўчанятаў.

2/ Месячную справаздачу са складак і ад-

бытай дзейнасьці паводле узору рапарту.

3/ Касавая кніжка +/ - паводле агульнае прынятых узораў запрыходваньня і выдаткаваньня грошай. Біляньсаваць раз на месяц.

4/ Інвэнтар +/ Грамады /назоў прадмету, дата атрыманьня, цана, дзе знаходзіцца/.

5/ Бібліятэчны сьпісак +/ /назоў кніжкі, аўтар, каму пазычаная/.

6/ Дзёньнік працы. Праваднік тут упісвае штодзённа і сыстэматычна такія дадзеныя:

а/ месячны плян заняткаў,
б/ справаздачы з адбытых зборак, экскурсыяў, урачыстасьцяў і г.д. /Справаздачы пісаць з кожнай зборкі аддзельна/,
в/ пратаколы з адбытых пробаў на зоркі і спраўнасьці, а таксама пратаколы з пераходу Ваўчанятаў у Скаўцкую Дружыну,
г/ заўвагі Скаўцкага Інспэктара,
д/ важнейшыя здарэньні з жыцьця Грамады і інш.

7/ Караспандэнцыйны дзёньнік, дзе ўпісваецца чаргова кожнае пісьмо пад №№, якое прыходзіць і выходзіць з Грамады.

§126. Хроніку Грамады вядзе Праваднік разам з хлопцамі. Яна мае адбіваць жыцьцё і настроі усіх хлопцаў і зьмяшчаць апісаньні зборак, экскурсіяў, лягероў, урачыстасьцяў; малюнкі і карыкатуры, вырэзкі з часапісаў, фатаздымкі, вершыкі, арыгінальныя помыслы, аўтографы скаўцкіх кіраўнікоў і г.д.

==========

+/ Пры самастойных Грамадах. Калі Грамада існуе пры Сьцягу, то гэтыя справы належаць да Сьцягу.

Тут упісваецца а к т заснаваньня Грамады, падпісаны усімі заснавальнікамі Грамады. У Хроніцы знаходзіцца таксама сьпісак прысутнасьці на зборках і лісток аплачаных складак.

## Р а з ь д з е л XУ

## Удзел Ваўчанятаў у сьвятах

### Нацыянальнае сьвята

§127. а/Дзень 24 сакавіка - дзень Беларускіх Герояў, паўшых за вольнасьць нашага Народу. У гэты дзень Ваўчаняты дакажуць чынам свой патрыятызм у выконваньні розных работаў, напр. прынясуць зеляніну, сплятуць вянкі, ачысьцяць школу, прыгожаць скаўцкую сьвятліцу, магілы паўшых герояў, зробяць нейкі выдатны добры учынак і г.д. У гэты дзень складаецца Прырачэньне і пераходзіцца /пасьля III зоркі і скончаных 11 год/ у Скаўцкую Дружыну.

б/ У дзень 25 сакавіка Ваўчаняты прымаюць удзел у урачыстасьцях і павінны самі паказаць /адыграць/ гістарычныя сцэнкі з гісторыі нашага вызваленьня 1918 г.

§128. Апрача 24 і 25 сакавіка Ваўчаняты адзначаюць вялікія гістарычныя дні, як угодкі вялікіх нашых герояў, дзяржаўных мужоў, паэтаў, культурных дзеячоў, гістарычныя даты, а таксама нашыя народныя сьвяты: Колляды, Сьвята Вясны /Вялікдзень/, Купальле, Дажынкі, Дзяды і інш. Асобную нізку твораць вялікія скаўцкія сьвяты: Дзень сьв. Юрага /24 красавіка/, Угодкі заснаваньня Грамады, ЗКСЧ, і інш. Дакладны сьпісак урачыстых дзён для Скаўтаў і Ваўчанятаў - глядзі Дзёньнік Загадаў Галоўнай Кватэры.

§129. У часе вялікіх нацыянальных або скаўцкіх урачыстасьцяў Ваўчаняты таксама прымаюць удзел у дэфілядзе. Дэфіляда Ваўчанятаў не павінна быць вайсковага тыпу, а выражаць настроі і фантазію дзяцей. Ваўчаняты выступаюць у маршы зусім аддзельна і то із сваімі помысламі, напр. з лукамі і стрэламі, на хадулях, з "зьмяямі-лятунамі", у экзатычных строях і г.д.
Могуць быць застасованыя і гэткага тыпу помыслы, як бег, напамінаючы кавалерыю, парамі: конь і яздок, або шасьцёркамі на квадрытах на узор рымскіх паказаў у цырку: 5-х цягнуць з палак зьбіты квадрат беспасрэдна і на лінках, Вэжак стаіць на задняй палцы і кіруе "коньмі". /Гл. рысунак на канцы Рэг./ Могуць быць і іншыя помыслы і аб гэтым павінен паруніцца Праваднік з хлопцамі, падрыхтоўваючыся да дэфіляды.

## Р а з ь д з е л XVI

Прынцыпы супрацоўніцтва Кіраўніцтва Ваўчатаў

§130. Калі Грамада Ваўчанятаў існуе пры Сьцягу ўстанаўляюца наступныя прынцыпы разьмяжаваньня кампэтэнцыяў паміж Праваднікем а Сьцяжным:

1/ Грамада з гледзішча выхаваўчага ёсьць аўтаномнай адзінкай у Сьцягу, якому падлягае толькі арганізацыйна;

2/ Праваднікa Грамады - Малодшага вызначае Штандаровы на прапанову Сьцяжнога, Праваднікa і Старшага Праваднікa - Галоўнае Кіраўніцтва на прапанову Штандаровага;

3/ Сьцяжны можа заснаваць Грамаду толькі за згодай Кіраўніцтва Штандару і Галоўнай Кватэры;

4/ Праграму працы падпісвае разам з Праваднікем Сьцяжны, зацьвярджае Рэфэрэнт Ваў--

чанятаў пры Штандары;

5/ Інспэкцыю Грамады праводзіцца за ведамам Сьцяжнога;

6/ дапускаюцца магчымасьці беспасрэдных дачыненьняў вышэйшых уладаў Ваўчанятаў з Праваднікам і наадварот;

7/Абавязкамі Сьцяжнога ёсьць сачыць, каб Праваднік прымаў удзел у абавязваючых яго зборках, курсах, нарадах Сьцягу і г.д.

8/Дачыненьні са школай і бацькамі ўтрымоўвае Праваднік сам;

9/ Каса і інвэнтар Грамады належаць да агульнай гаспадаркі;

10/Сьцяжны аказвае усю магчымую падтрымку Грамадзе, асабліва пры наладжваньні летніх лягероў для Ваўчанятаў.

11/За Грамаду нясуць адказнасьць Праваднік і Сьцяжны.

## Фавьдзела XVII

## Рапарты.

§131. Праваднік абавязаны штомесячна недасылаць рапарты Кіраўніцтву Штандару ў двух экзамплярах /адзін экз. Штандар высылае ў Галоўную Кватэру/. Рапарты павінны быць падпісаны, калі Грамада пры Сьцягу, Праваднікам і Сьцяжным.

§132. У рапарце павінны быць наступныя дадзеныя:

Назоў Грамады..........мясцовасьць..........

Сьцяг...........Штандар.......................

Лік Шостак........Праваднік...................

1. Лічбовы стан

Малодшы Праваднік............
Заступнік..................
Праваднік..................
Старшы Праваднік............

Заўчанятаў: 1-ай зоркі .........
2-ой " .........
3-яй " .........
кандыдатаў .........

2. Здабытыя спраўнасьці

| дата | назоў спраўнасьці | лік |
|---|---|---|
| .... | ................. | ...... |
| .... | ................. | ...... |
| .... | ................. | ...... |
| .... | ................. | ...... |

3. Зборкі, заняткі, урачыстасьці, імпрэзы.

а/ Колькі праведзена зборак і на якія тэмы?

б/ Якія прароблены гульні?

в/ Якія адбыліся экскурсіі, куды?

г/ Адбыўшыся ўрачыстасьці і калі?

д/ Наладжаныя імпрэзы, якія, калі?

ж/ Нацыянальныя ўрачыстасьці і гістарычныя даты.

4. Стан здароўя

а/ нармальна разьвіваецца .........
б/ ненармальна /вага, узрост/.......
в/ хворых /на якія хваробы/ ........
г/ агульная характарыстыка фізычнага разьвіцьця хлопцаў.

5. Школьнае навучаньне

а/ наведвае I клясу ....... бел. школы
б/ " II " ....... " "
в/ " III " ....... " "
г/ " IУ " ....... " "

Увага: У выпадку наведваньня не беларускай школы, падаць таксама клясы і азначыць нацыянальнасьць школы.

д/ не наведвае зусім школы ....... і з якіх прычынаў?

6. Праробленны месячны плян заняткаў, так, або не. Калі не, то якія тэмы не праробленыя і з якіх прычынаў?

7. Плян працы на наступны месяц.

8. Даты намечаных урачыстасьцяў Грамады /Прыначэньне, пробы, сьвяткаваньні, угодкі і г.д./

Заўвага: Месячны рапарт Праваднік абавязаны надсылаць Кіраўніцтву Штандару не пазьней 25-га кожнага месяца.

Рапарт Кіраўніцтва Штандару

§133. Рапарт Кіраўніцтва Штандару:

Назоў Штандару ..........Рэф. Вауч.............

1. Лічбовы стан

Агульная колькасьць Грамадаў Ваўчанятаў..........
З гэтага Ваўчанятаў I-й зоркі ..........
II-й " ..........
III-й " ..........

2. Спраўнасьці
Назоў спраўнасьці лік хлопцаў

**3. Стан здароўя**

Агульная характарыстыка стану здароўя.

**4. Школьнае навучаньне**

а/ Ваўчанятаў I клясы......II ......III.....
IУ....
б/ ....... вучыцца ў чужых школах.
в/ ....... зусім не навучаецца.

**5. Выканая праграма**

а/ поўнасьцю у Грамадах.........
б/ часткова " .........
в/ прычыны невыкананьня:

**6. Пляnaваньне Кіраўніцтва Штандару на наступны месяц:** /плян заняткаў, ку[illegible] нарады, зьлёты і інш./

**7. Апінія аб паасобных Правадніках**

§134 Кожныя тры месяцы Праваднік высылае фінансовую і гаспадарчую справаздачу ў 2 экз. Кіраўніцтву Штандару, у якой павінен быць пададзены білянс касы, сьпіс інвэнтара, стан бібліятэкі і інш.

§135. У рапарце новазарганізаваных Грамадаў трэба падаць: дату пачатку працы, назоў Грамады, колер хустак і сьцягоў, гэрб, лік хлопцаў, іх век, дадзеныя аб Малодшым Правадніку і ягоным заступніку /імя, прозьвішча, век, ступень, прафэсія, падрыхтоўка да працы, адбытыя курсы і пробы, адрыс/, асяродзьдзе і умовы працы, школа, якую наведваюць хлопцы і якія клясы. Адначасова падаць ці Грамада самастойная ці пры Сьцягу і далучыць праграму працы на 3 месяцы.

## Р а з ь д з е л XVIII

## Пераход Ваўчанят у Скаўцкую Дружыну

§136. Ваўчаняты, скончыўшы 11 год жыцьця пераводзяцца ў Скаўцкія Дружыны. Урачыстасьць пераходу адбываецца раз на год 24 Сакавіка у Дзень Беларускіх Герояў. Урачыстасьць наладжваецца пры ўдзеле так Ваўчанятаў як і Скаўтаў.

§137. Урачыстасьць адбываецца наступна:

1/Зборка Скаўцкіх Дружын і Грамады Ваўчанят.
2/Вялікі паказ Грамады, напр. конкурс вышыні лёту зьмяёў-лятуноў, эштафэта, бег на хадулях, страляньне з лукаў, скаўцкі бег з перашкодамі і г.д.
3/Скаўты паказваюць сваю спраўнасьць у сваіх змаганьнях, бегах, спартовых спаборніцтвах.
4/Спаборніцтвы Скаўтаў і Ваўчанятаў.
5/Гутарка Скаўтмайстра аб рыцарах і іх дапаможніках, аб урачыстасьці прыманьня ў рыцары, навязваючы да дня Герояў.
6/ Сыгнал. Зборка. Скаўты ў трышэрагу са Сьцягамі. Ваўчаняты ў паўколе са сваімі сьцяжкамі і гэрбам.
7/ Сьцяжны прамаўляе: "Ваўчаняты да прамоцыі на Скаўтаў - выступ!". А калі выступяць, кажа: "за хвіліну вы будзеце прамованыя на Скаўтаў, перад гэтым вы павінны даказаць, чаго вы навучыліся, будучы Ваўчанятамі". Ваўчаняты /кандыдаты/ чаргова кажуць, чаго навучыліся /якую здабылі спраўнасьць, колькі зорак і г.д./

Праваднік: "Хлопцы, паўтарыце Права, якое Вас дасюль абавязвала".
Хлопцы адказваюць хорам Права Ваўчанятаў.

Сьцяжны: "Хлопцы, пачуеце права, якое вас

ад гэтага часу будзе абавязваць". Адзін Скаўт моцным голасам рэцытуе Скаўцкае Права.

Сьцяжны: "Зважай"! "Ваўчаняты, у гэты момант прымаю вас у рады Скаўтаў. Будзьце вернымі Скаўцкаму Праву і служыце Богу, Бацькаўшчыне і бліжнім!". Наступна ў асысьце Праваднікa падыходзіць да хлопцаў, начапляе ім наплечнікі і скаўцкія лілейкі і падае ім левую руку.

Скаўты і Ваўчаняты на знак Сьцяжнога ўзносяць воклiч у чэсьць новых Скаўтаў тройчы "жыве!" Усе твораць сяброўскае кола: Скаўты і новапрынятыя. Ваўчаняты меншае кола ў сярэдзіне. Скаўты, а потым Ваўчаняты сьпяваюць вясёлыя песьні.

У канцы разьвітаньне: Праваднік: "Пастарайся, хлопцы, добра займацца, каб быць добрымі Скаўтамі!" Хлопцы: -"Пастаемся!" Сьцяжны: "Напагатове! - Усе - "Заўсёды!"

____§§§§§§§§§§____



Ваўчок



Вінкель Важака



Канец зборкі
Гл. бач. 44.




Уніформа Ваўчка



ДЭФІЛЯДА НА КВАДРЫГАХ, БАЧ. 48.